Салігорск• Слуцк• Наваполацк• Гродна• Мазыр• Бабруйск• Магілёў• Гомель

*У адзінстве наша сіла!*



# САЛІДАРНАСЦЬ

№ 1 (401)

7 - 13 студзеня 2002 года

*Цана свабодная*
*Для сяброў БНП - бясплатна*

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА ГАРНЯКОЎ, ХІМІКАЎ, НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАЎ, ЭНЕРГЕТЫКАЎ, ТРАНСПАРТНІКАЎ, БУДАЎНІКОЎ І ІНШЫХ РАБОТНІКАЎ

*У мінулым нумары «Салідарнасці» мы змясцілі падборку матэрыялаў з водгукамі на Пастанову Саўміна РБ № 1804 ад 14 снежня 2001 г. «Аб мерах па абароне правоў членаў прафесійных саюзаў». Сёння можам сказаць, што Пастанова гэта ўзняла цэлую буру абурэння ў Беларусі і за яе межамі. Мы працягваем тэму і паведамляем, што ў рэспубліцы запланаваны цэлы шэраг масавых акцый пратэсту. У тым ліку – у Салігорску.*

**З дазволу Мінскага аблвыканкама прафсаюзы шахцёрскага горада праводзяць 11 студзеня на стадыёне «Будаўнік»**

**МІТЫНГ ПРАТЭСТУ.**

**Мяркуемая колькасць удзельнікаў – да 10 тысяч.**

**Час: з 15.30 да 17.30 гадзін.**

# Удар в спину? Выстоим!

Независимый профсоюз с момента создания показал себя как непримиримый борец за права и интересы своих членов. Его организации работают в соответствии с Законом о профсоюзах, Трудовым кодексом, Тарифным соглашением, коллективным договором. И это понятно. Законная организация и должна так поступать. Правила «игры» написаны в законах и должны соблюдаться всеми сторонами.

В Беларуси все наоборот. Декреты президента и постановления правительства в отношении общественных организаций (в том числе и профсоюзных) направлены на ущемление их прав и воспрепятствование эффективной деятельности. Почему? А потому что диктатура не приемлет другого действия. Все должно быть так, как пожелал диктатор.

После выборов 9 сентября 2001 г. власть увидела в лице профсоюза противника, которого необходимо уничтожить. Каким образом? Правительство принимает постановление о запрете бухгалтериям предприятий удерживать взносы и перечислять их безналичным путем профсоюзным организациям. Расчет на то, что взносов не будет, и профсоюзы умрут, так как труженики сами взносы не понесут, собирать их в шапку никто не будет. А без финансовых средств деятельность профсоюзов не возможна. Вот так, без больших усилий, решено нас уничтожить.

Целесообразно напомнить, что неуплата членских взносов в течение 3 месяцев лишает права на членство в профсоюзе, а значит, и на защиту.

В унисон антизаконному постановлению правительства на РУП «ПО «Полимир» издается приказ от 29 декабря 2001 г. № 682 «Об отмене действия пунктов коллективного договора». Отменяются действия 12 его пунктов. Вот такое «партнерство» по-белорусски со стороны органов власти и управления.

На протяжении всей своей деятельности профсоюз сглаживает то давление, которое оказывается на рабочих, противостоит законам, которые ущемляют их права. Не будет профсоюза – и все давление нанимателя напрямую будет воздействовать на беззащитного труженика.

Итог. Многих, в первую очередь, уважающих себя и знающих себе цену, ждет увольнение, безработица.

В нашем государстве защищаться и отстаивать свои интересы можно только коллективно. Одного раздавят и выбросят. И следов не найдешь. Примеры: В. Гончар, Ю. Захаренко, А. Красовский, Д. Завадский.

В настоящее время многие международные организации выражают протест против незаконных действий правительства в форме отправки факсов, писем и т.д. Международная общественность негодует и требует отменить постановление правительства № 1804 от 14 декабря 2001 г. Выразил свой протест президент региональной организации ICEM по Восточной Европе, Центральной Азии и Закавказью Александр Юркин. Совет Белорусского Конгресса демократических профсоюзов обратился к Правительству США и правительствам Европейского сообщества оказать политическое и экономическое давление на белорусское правительство с целью заставить его соблюдать права и свободы граждан, профсоюзов и других общественных организаций в РБ.

С нотами протеста все вроде в порядке. Сейчас дело за нами. Свою организацию надо защищать и отстаивать не только словом, но и делом. Необходимо подать заявки на пикеты, демонстрации, шествия, митинги и активно поддержать эти акции. Протест должен быть видимым.

Независимому профсоюзу не привыкать действовать в тяжелых условиях. Мы верим в свои силы. Если придется, будем собирать взносы и по ведомости. В Независимый рабочие пришли сами, сами писали заявления, т.е. стали его членами осознанно и знают, что для нормальной работы организации необходимы деньги. Поэтому взносы будут собираться.

В Беларуси очень много проблем в экономике. Вот бы правительству совместно с профсоюзами начать их решать. Но, как правило, у нас заходят с обратной стороны. Вместо социального партнерства – удар в спину.

Хочется закончить на оптимистической ноте. Много испытаний вынес белорусский народ. Переживем и это. Будем же сплоченными в нашей борьбе! Пока мы едины – мы непобедимы!

Жыве Беларускі Незалежны прафсаюз!

**Н. ЗИМИН,**
**секретарь-казначей Белорусского Независимого профсоюза.**

**Региональному секретарю представительства ICEM по Восточной Европе, Центральной Азии и Закавказью А. МРОСТУ**

Дорогой брат!

Вынужден обратиться с просьбой от имени Независимого профсоюза к членским организациям ICEM в связи с изданием Правительством Республики Беларусь постановления № 1804 от 14 декабря 2001 года «О мерах по защите прав членов профессиональных союзов». Данный нормативный акт является незаконным, так как грубо нарушает ряд более высоких нормативных актов Республики Беларусь и, в частности, положения:

Конвенции МОТ № 87; Конституции Республики Беларусь; Трудового Кодекса Республики Беларусь; Указа Президента Республики Беларусь № 639; Генерального соглашения, заключенного между Правительством Республики Беларусь, объединениями нанимателей и объединениями профессиональных союзов (Федерация профсоюзов Белорусская и Беларусский Конгресс демократических профсоюзов).

Кроме того, нарушены:

Тарифное соглашение, заключенное между Концерном «Белнефтехим» и Белорусским Независимым профсоюзом горняков, химиков, нефтепереработчиков, энергетиков, транспортников, строителей и других работников; коллективные договора, заключенные между нанимателями и первичными организациями Независимого профсоюза; решение Конституционного суда Республики Беларусь.

Из вышеизложенного Вы видите, что в Республике Беларусь появился еще один субъект нормотворчества, который намерен грубо игнорировать существующую в Республике Беларусь правовую базу и ревизировать ее в зависимости от понимания закона премьер-министром Республики Беларусь господином Новицким. Вы знаете, что оно у этого государственного деятеля крайне не развито и находится в эмбриональном состоянии.

К глубокому сожалению, запрет на перечисление профсоюзных взносов в безналичном порядке может значительно ограничить деятельность профсоюзов в Республике Беларусь.

Прошу оказать необходимую поддержку и проявить солидарность с профсоюзами Беларуси со стороны ICEM.

**С глубоким уважением** **В.С. БАБАЕД, председатель БНП.**

## Адным абзацам

- **Затрыманы дырэктар Мінскага трактарнага завода Міхаіл Лявонаў. Напярэдадні праваахоўныя і кантрольныя органы праводзілі фінансава-гаспадарчую праверку дзейнасці МТЗ, у выніку якой адкрылі некалькі крымінальных спраў па фактах фінансавых парушэнняў. М. Лявонаў кіруе гэтым заводам з 1995 года.**
- У Магілёве затрыманы дырэктар гарадскога рынка «Задняпроўскі» Анатоль Пратасеня. Яго вінаваціць за атрыманне хабару ў памеры 1000 долараў ЗША за прадастаўленне гандлёвага месца. Пасля арышту А. Пратасені да следчага прыйшлі некалькі дзесяткаў чалавек, якія давалі хабар. Яны з лёгкасцю прызналі сябе вінаватымі, бо паводле новага заканадаўства, не будуць несці адказнасці за гэта.
- **Затрыманы і дырэктар Гомельскага радыёзавода Анатоль Кірыкаў. Супраць яго заведзена крымінальная справа за падпісанне стратнага для завода кантракту з замежнай фірмай, які каштаваў прадпрыемству 87 млн. рублёў.**
- Беларускія дыпломы аб вышэйшай адукацыі будуць прызнавацца ў Еўропе. Наша краіна далучылася да Канвенцыі аб прызнанні дакументаў аб вышэйшай адукацыі ў еўрапейскім рэгіёне, падпісанай 11 еўрапейскімі дзяржавамі ў 1997 годзе ў Лісабоне. Дакумент дае беларусам магчымасць новых варыянтаў для атрымання адукацыі ды працы за мяжой. На сённяшні дзень згаданую Канвенцыю падпісалі 50 дзяржаў.
- **Толькі адзін з двух беларусаў чытае штодня газету ці часопіс. Такія вынікі падпіскі на перыёдыку ў першым паўгоддзі 2002 года. Агульны наклад усіх перыядычных выданняў, на якія вялася падпіска, складае 4,8 млн. асобнікаў.**
- Памер знешняга доўга Беларусі на канец 2001 года склаў 769,6 млн. долараў ЗША. Унутраны доўг складае 715,5 мільярдаў рублёў.

## ВВЕДЕНЫ НОВЫЕ СБОРЫ

**На территории Минской области с января 2002 года введены новые целевые сборы - транспортный сбор на обновление и восстановление городского, пригородного пассажирского транспорта и сбор на развитие инфраструктуры городов и районов.**

В соответствии с положениями о данных сборах, утвержденными Минским областным Советом депутатов, передает БелаПАН, ставка транспортного сбора составляет 1,5 процента от прибыли, остающейся в распоряжении юридического лица; сбора на развитие инфраструктуры городов и районов - 3,5 процента от прибыли, остающейся в распоряжении юридического лица. Средства от последнего сбора будут направлены на строительство, ремонт, а также централизованное приобретение оборудования и инвентаря для учреждений социальной сферы.



## Прогноз погоды



| | Пятница 11.01 | Суббота 12.01 | Воскр. 13.01 |
|---|---|---|---|
| Солигорск, Слуцк | облачно | облачно | облачно |
| День | + 1 | - 1 | - 3 |
| Ночь | - 1 | - 2 | - 4 |

YAHOO! Weather

Нататкі з канферэнцыі


Удзельнікі канферэнцыі

# «УСЁ Ў ВАШЫХ РУКАХ»

**Урачыста і прыгожа прайшла напярэдадні навагодніх святаў юбілейная канферэнцыя, прысвечаная дзесяцігоддзю Незалежнага прафсаюза гарнякоў РУП "Вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій". Па-святочнаму ўбраная вялікая зала Палаца культуры калійшчыкаў запоўнена дэлегатамі і гасцямі, прыемная музыка ненавязліва запаўняе паўзы, стварае прыўзняты настрой.**

**Былі ўспаміны пра дзесяцігадовы шлях прафсаюза з дня яго нараджэння. Былі цёплыя віншавальныя выступленні з узгадкамі пра здабыткі і памылкі; з удзячнасцю называліся прозвішчы стваральнікаў прафсаюза; уручэнне вялікай групе калійшчыкаў падарункаў, пасведчанняў аб прысваенні званняў "Заслужаны ветэран" і "Ветэран", Ганаровых грамат. Але абышлося без фармалізму, доўгіх прамоў. Доўжылася канферэнцыя не больш гадзіны, прайшла, можна сказаць, на адным дыханні, не паспеўшы нікога стаміць, але пакінуўшы пасля сябе добры ўспамін.**

**Выступілі на канферэнцыі старшыня НПГ М.М. Новік, цяперашні генеральны дырэктар "Беларуськалія" А.М. Башура, ягоны папярэднік, абраны дэпутатам Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь П.А. Калугін, старшыня Беларускага Незалежнага прафсаюза В.С. Бабаед, адзін са стваральнікаў НПГ, пенсіянер А.А. Доўнар, старшыня Свабоднага прафсаюза Г.А. Быкаў, былы намеснік старшыні НПГ Д.А. Красоўскі. Зачытана тэлеграма ад першага старшыні НПГ І.В. Юргевіча: "Вітаю, віншую, душой з вамі. Прыехаць не магу. Жадаю поспеху, удачы, плённай работы. Захавайце энтузіязм, веру і чысціню першых гадоў. З салідарнасцю шчыра ваш Іван Юргевіч". З віншаваннем ад імя Саюза рабочых Літвы выступіла яго прэзідэнт Алдона Бальсене.**

**М.М. НОВІК** пачаў з таго, што прафсаюз нараджаўся ў абстаноўцы вострага канфлікту рабочых з адміністрацыяй "Беларуськалія", своеасаблівымі вяхамі якога з'явіліся страйкі, стачкі, галадоўкі 1989, 1991, 1992 гадоў, калі выстаўляліся, побач з эканамічнымі, і палітычныя патрабаванні. Пазней палітычныя адпалі. Пачаўся пошук шляхоў да эканамічных і сацыяльных гарантый работнікам гіганта калійнай індустрыі краіны – у вострых дыскусіях з урадам, кіраўніцтвам "Беларуськалія", распрацоўцы прапаноў у заканадаўчыя акты.


П.А. Калугін


А.М. Башура

Галоўным здабыткам прафсаюза, лічыць Мікалай Мікалаевіч, стала распрацоўка праграмных дакументаў і, перш за ўсё, – калектыўнага дагавора, які з адміністрацыяй заключаўся ўжо тройчы. Дзякуючы выкананню гэтага дагавора калійшчыкі маюць гарантаваную, упаўне дастойную ва ўмовах эканамічнага крызісу заработную плату. А таксама – дзеючая сістэма дадатковага пенсійнага забеспячэння. Сродкі на аздараўленне, жыллёвае будаўніцтва. Варта падкрэсліць, што, нягледзячы на ўсім вядомыя цяжкасці, у шмат разоў павялічыліся сацыяльныя фонды, гарантыі і кампенсацыі. Узрасла патрабавальнасць прафсаюза да аховы працы і здароўя працоўных.

Калі падсумаваць сказанае М.М. Новікам, у прафсаюза цяпер наладзіліся з адміністрацыяй нармальныя дзелавыя партнёрскія ўзаемаадносіны. Засмучаюць, праўда, апошнія захады ўрада, накіраваныя на разгром прафсаюзаў, якім давядзецца супрацьстаяць.

Павіншаваўшы сяброў НПГ з юбілеем, генеральны дырэктар "Беларуськалія" **А.М. БАШУРА** спыніўся на выніках работы аб'яднання. Растуць аб'ёмы здабычы руды, якой да канца 2001 года прадугледжана выдаць на-гара 32 мільёны тон, з якіх павінна быць выпрацавана 3,6 мільёна тон угнаенняў са стапрацэнтным утрыманнем карыснага рэчыва. 204 сям'і справаць наваселлі, а ў 2002 годзе – ужо 227. Сярэдняя заработная плата па аб'яднанню за месяц складае 402 тысячы беларускіх рублёў, або 268 долараў.

У бліжэйшых планах аб'яднання – будаўніцтва пятага, Чырвонаслабодскага рудніка, дырэкцыя якога ўжо створана. Каб не спыняць вытворчасць з-за зніжэння попыту на прадукцыю ў зімовыя месяцы, распачата будаўніцтва на чацвёртым рудапраўленні склада на 30 тысяч тон. У 2002 годзе будзе распачата будаўніцтва яшчэ аднаго склада на 25 ці 50 тысяч тон на трэцім. За ўласныя сродкі пачата будаўніцтва газаправода. Бо газ намнога дзешавейшы за мазут, асабліва калі купляць яго на валюту.

Старшыня БНП **В.С. БАБАЕД**, які таксама ўнёс значны ўклад у стварэнне НПГ, акцэнтаваў увагу прысутных на агрэсіўных спробах урада знішчыць прафсаюзы і на тым, што спробы гэтыя праваляцца. Нагадаў, што 10 гадоў назад шахцёраў называлі "бунтарамі, якія зарваліся", хаця такімі яны не былі. Сярэдняя працягласць жыцця "бунтароў" тады была пры катаржных умовах працы ўсяго 49 з палавінай гадоў, а сёння скарацілася яшчэ на тры гады. Таму прафсаюзу і адміністрацыі прадстаіць тытанічная работа, каб выправіць такую сумную статыстыку. Віктар Сяргеевіч станоўча ацаніў супрацоўніцтва прафсаюза з былым гендырэктарам П.А. Калугіным. І па першых кроках А.М. Башуры можна спадзявацца, што так будзе і надалей. Выказана таксама спадзяванне, што Андрэй Мікалаевіч у сітуацыі пасля пастановы Саўміна аб забароне безнаяўнага пералічэння ўзносаў будзе дзейнічаць у адпаведнасці Канстытуцыі, іншым заканадаўчым актам, а не незаконнай пастанове. А калі прэм'ер захацеў сацыяльнага канфлікту – ён яго атрымае. Рабочыя і іх прафсаюзы – прыхільнікі сацыяльнай згоды, але за сябе пастаяць могуць, як гэта ўжо дэманстравалі не аднойчы.


Віктар Бабаед (злева), Генадзь Быкаў, Алдона Бальсене (справа).

Былы сакратар-скарбнік НПГ (тады – НПГБ) **А.А. ДОЎНАР** добрым словам узгадаў тых, з кім разам стваралі прафсаюз, – І. Юргевіча, В. Бабаеда, В. Юркіна, М. Падлознага. Падзяліўся тым, што з яго ўдзелам для членаў прафсаюза цяпер ажыццяўляецца праграма навучання па філасофіі пазнання. Выказаўся, што скарачэнне працягласці жыцця на "Беларуськаліі" – гэта віна не столькі вытворчасці, колькі саміх працаўнікоў, іх часам бестурботных адносін да ўласнага здароўя.

Дружнымі апладысментамі сустрэлі ўдзельнікі канферэнцыі **П.А. КАЛУГІНА**, тым самым аддалі даніну павагі і ўдзячнасці чалавеку, які 9 гадоў кіраваў "Беларуськаліем". А той прызнаўся, што ў свой час вучыўся ў страйкавага камітэта, усіх калійшчыкаў таму, як разам зрабіць, каб людзі жылі лепш. Падзяліўся, што ў якасці дэпутата парламента працягвае адстойваць іх інтарэсы. Да прыкладу, 13 працэнтаў прыбаўкі да пенсіі шахцёрам, якія адпрацавалі ў шахце больш 20 гадоў, парламент даў не без яго ўдзелу. Хаця гэта было не проста ў цяперашняй эканамічнай сітуацыі. Пажадаў працаўнікам аб'яднання, каб яны і надалей ганарыліся сваім прадпрыемствам.

Лідэр СПБ **Г.А. БЫКАЎ** упершыню трапіў у Салігорск у 1991 годзе і большасць удзельнікаў канферэнцыі ведае ў твар. Яголы СПБ і гарняцкі прафсаюз разам рабілі адну справу, каб жыццё не стаяла на месцы, "каб дзецям было лепш, чым нам, унукам – лепш, чым дзецям. У гэтым – асноўная задача прафсаюза".

Былы намеснік старшыні НПГБ **Д.А. КРАСОЎСКІ** расказаў прытчу, сутнасць якой зведзена да таго, "што ўсё ў вашых руках – як вы зробіце, так і будзе".

Тэкст і фота
**В. МУРЫЛЁВА.**

Расправы

# «ТЫ ВИНОВАТ ХОТЯ Б УЖ ТЕМ...»

**Совет Брестской региональной организации Свободного профсоюза Беларусского (БрОРО СПБ) в конце прошлого года принял заявление, в котором выражается озабоченность усилением давления властей на активистов профсоюза. Особенно в период кампании по выборам президента и после ее завершения. А в Брестском государственном университете имени А.С. Пушкина, к примеру, администрация преследует активистов СПБ уже не один год. И ранее, когда ректором был В. Степанович. И ныне, когда его на этом посту сменил коммунист В. Плетюхов.**

За 1998 и 1999 годы в комиссию по трудовым конфликтам СПБ университета поступили 12 заявлений от его членов, 7 из которых разрешены совместно профсоюзом и администрацией в рамках законодательства.

На протяжении 2000 и 2001 годов комиссии пришлось рассматривать 6 заявлений. Половину из них – совместно с администрацией. А в двух случаях дело дошло до суда. Иск о незаконном увольнении члена СПБ Н. Новика в суде первой инстанции выигран, в вышестоящей – проигран, а надзорные жалобы «путешествуют» по разным инстанциям до сих пор.

В прошлом году преследования сотрудников администрацией за их принадлежность к СПБ усилились. Доцентам А. Левковичу и А. Лысюку объявлены выговоры. Старший преподаватель Е. Беласин и доцент В. Замковец не избраны по конкурсу. Трое членов СПБ под нажимом администрации написали заявления о выходе из профсоюза. Один из них сегодня уже уволен, второй – лишен должности. Конфликт между администрацией и членом совета СПБ профессором И. Кожухом рассматривается в суде.

27 ноября администрация пыталась воспрепятствовать избранию В. Лазаренкова на должность старшего преподавателя. Было зачитано письмо ректора с негативной характеристикой на него – «руководителя незаконной, деструктивной организации Свободного профсоюза». Но члены Совета проголосовали за избрание Лазаренкова.

Через три дня Совет географического факультета не избрал на должность ассистента И. Масловского – под влиянием предвзятого выступления декана Е. Мешечко, исказившего его профессиональную и научную деятельность. В тот же день Масловский уволен приказом ректора – вопреки установленному десятидневному сроку для подачи апелляции в вышестоящий Совет. Без предъявления объективных оснований для увольнения.

Кстати, И. Масловский успешно закончил аспирантуру, за последние пять лет имеет два десятка научных публикаций, является участником двух научно-исследовательских тем. Получил положительную рекомендацию кафедры для утверждения в должности ассистента. За все время работы в университете не имел взысканий и замечаний. Настоящая же причина расправы с ученым – его политическая и общественная активность в свободное от работы время.

Ректор университета, до недавнего времени руководитель областной организации КПБ, В. Плетюхов неоднократно высказывался, что считает организацию СПБ университета политической структурой. Хотя большинство членов СПБ – беспартийные, принадлежат к разным религиозным конфессиям и вся их «политика» – способность активно отстаивать свои экономические и социальные права.

В своем заявлении БрОРО СПБ выразил моральную поддержку и солидарность преследуемым членам профсоюза, обращается к международным профсоюзным организациям с призывом проинформировать общественность их стран о нарушениях прав человека в Беларуси.

Как нам стало известно, накануне Нового года коммунист Плетюхов лишил организацию СПБ юридического адреса. А заодно и полдесятка других общественных организаций. По принципу крыловской басни: «Ты виноват хотя б уж тем, что хочется мне кушать».

## Поздравляем!

**Уважаемые**
**Андрей Дмитриевич ШЕСТАКОВ,**
**Денис Владимирович МИХАЛКО,**
**Владимир Валентинович БЕРНАЦКИЙ,**
**Виктор Михайлович ЗУБОК,**
**Владимир Викторович ПЕТРОЧЕНКО!**
**Зинаида Николаевна СУБАЧ,**
**Наталья Викторовна ХАХЕЛЬ,**
**Ирина Ивановна АКАСЕВИЧ,**
**Андрей Владимирович ПЕЖЕНКО,**
**Алексей Васильевич РЫБАК,**
**Александр Александрович ПОПОВ,**
**Николай Алексеевич УТОЧКИН,**
**Николай Брониславович ПАШКЕВИЧ,**
**Леонид Александрович ВЕРЕМЕЕВ!**

**Поздравляем вас с юбилеем!**
Хотим вам пожелать удачи,
Успеха в жизни, ярких дел,
Чтоб вы с улыбкой, не иначе,
Встречали каждый новый день!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза производственного объединения «Полимир» г. Новополоцка.**

**Виктору Михайловичу МАГОЛИНУ,**
***работнику Железнодорожного цеха РУП «ПО «Беларуськалий»***

**Уважаемый Виктор Михайлович!**
**Поздравляем Вас с 40-летием!**
Пусть будет в жизни все, что нужно,
Чем жизнь бывает хороша:
Любовь, здоровье, счастье, дружба
И вечно юная душа!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза горняков ЖДЦ.**

**Инне Валентиновне ПОПКОВСКОЙ,**
**Ирине Николаевне УРБАНОВИЧ,**
***работницам Центральной лаборатории РУП «ПО «Беларуськалий»***

**Уважаемые Инна Валентиновна и Ирина Николаевна!**
**Поздравляем вас с днем рождения!**
Пусть Ваша жизнь беды не знает,
Удача не обходит дом,
Улыбка на лице сияет
И счастье бьет всегда ключом!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза горняков ЦЛ.**

**Виктору Фёдоровичу УСОВИЧУ,**
***председателю Контрольно-ревизионной комиссии Беларусского Независимого профсоюза***

**Уважаемый Виктор Фёдорович!**
**Поздравляем Вас с днем рождения!**
Желаем дружно и сердечно,
Чтоб Вы здоровы были вечно,
Чтоб Вас не старили года,
Чтоб были радостны всегда!

**Исполнительные бюро Беларусского Независимого профсоюза и Независимого профсоюза горняков РУП «ПО «Беларуськалий».**

**Галине Ивановне КРУКОВИЧ,**
**Валентине Фёдоровне СЕЧКО,**
***работницам ЗАО «Калинка» г. Солигорска***

**Уважаемые Галина Ивановна и Валентина Фёдоровна!**
**Поздравляем вас с днем рождения!**
Пусть век ваш до ста лет продлится
И солнце светит пусть всегда,
И в ваши двери не стучится
Болезнь и старость никогда!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза ЗАО «Калинка».**

**Александру Сергеевичу ЦЫБУЛЬКО,**
**Николаю Николаевичу МАХЛАЮ,**
***работникам железнодорожного цеха РУП «ПО «Беларуськалий»***

**Уважаемые Александр Сергеевич и Николай Николаевич!**
**Поздравляем вас с днем рождения!**
Пусть будет жизнь Ваша прекрасной,
Пусть будет меньше зла и бед!
Желаем мы большого счастья
И долгих, светлых, добрых лет!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза горняков ЖДЦ.**

**Наталье Павловне ЖУРАВЛЕВОЙ,**
**Николаю Викторовичу ПЕЧКО и**
**Василию Степановичу МАРИНИЧУ,**
***работникам ОАО «ЛМЗ «Универсал» г. Солигорска***

**Уважаемые Наталья Павловна, Николай Викторович и Василий Степанович!**
**Поздравляем вас с юбилеем!**
Желаем счастья, радости, тревог,
Желаем солнца, света и улыбок!
Пусть много будет пройдено дорог,
Пусть мало будет сделано ошибок!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза ОАО «ЛМЗ «Универсал».**

**Тамаре Николаевне ГОЦУЛЯК,**
**Николаю Леонтьевичу ВОРОНА,**
**Николаю Ивановичу КИКЛЕВИЧУ,**
***работникам РУП «ГПО «Азот»***

**Уважаемые Тамара Николаевна, Николай Леонтьевич и Николай Иванович!**
**Поздравляем вас с юбилеем!**
Ваш юбилей - нам тоже праздник.
И чтоб счастливой жизнь была,
Желаем крепкого здоровья,
Удачи, мира и тепла!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза работников РУП «ГПО «Азот».**

**Игорю Михайловичу КАТОК,**
**Валентину Константиновичу ЕРОФЕЕВУ,**
***работникам РУП «ГПО «Азот»***

**Уважаемые Игорь Михайлович и Валентин Константинович!**
**Поздравляем вас с днем рождения!**
Желаем счастья, светлых дней,
Здоровья, что всего ценней,
Дороги жизни подлинней
И больше радости на ней!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза работников РУП «ГПО «Азот».**

*Медицина*

# В США клонировали поросят

**Компания PPL Therapeutics объявила, что ее специалистам удалось клонировать свинью, клетки которой не будут отторгаться организмом человека, сообщает BBC News.**

Пять клонированных поросят женского пола появились на свет 25 декабря 2001 года в США. Поросятам дали соответствующие рождественские имена: Ноэль, Энджел, Стар, Джой и Мэри.

Это не первый случай клонирования свиньи. Однако специалисты PPL, коммерческого подразделения Roslin Institute, заявили, что полученные ими клоны предварительно были генетически модифицированны с целью уменьшения риска отторжения клеток этого животного человеческим организмом.

По мнению специалистов, удачно проведенный эксперимент по получению подобных клонов - огромный шаг по пути к использованию органов животных для трансплантации человеку.

«Мы как никогда близко подошли к решению проблемы трансплантации органов и получения производящих инсулин клеток, которые можно пересаживать больным диабетом», - заявил вице-президент американского отделения PPL доктор Дэвид Айарес.



## Гурманам на заметку

### СУП ИЗ ШПИНАТА

***2 чайные ложки муки, 1 лимон, 2 яйца вкрутую, зелень, перец, соль, мясной бульон.***

**Способ приготовления:** шпинат промыть, обдать кипятком, отжать, мелко порубить и потушить на масле с мукой и щепоткой перца. Затем опустить шпинат в бульон и вскипятить. Лимон нарезать тонкими ломтиками, положить в тарелке вместе со сметаной и рубленными яйцами, залить горячим супом. Подать, посыпав заленью.

*Светская жизнь*




# Эрик Клэптон женился

**Знаменитый британский музыкант Эрик Клэптон 1 января 2002 года женился на американке Мелии Макэнери, сообщает Reuters.**

Церемония бракосочетания происходила в обстановке строгой секретности. Гости были приглашены в церковь, расположенную недалеко от поместья Клэптона в графстве Суррей, южная Англия, на крестины шестимесячной дочери Эрика и Мелии.

Однако после окончания церемонии крещения Клэптон и Макэнери подошли к алтарю и обменялись брачными обетами, что стало полной неожиданностью для присутствовавших в церкви гостей, сообщает британская газета The Sun.

Церемония бракосочетания 56-летнего рок-музыканта и его 25-летней подруги проходила в церкви, где похоронен сын Клэптона Конор, который трагически погиб 11 лет назад, выпав из окна. Памяти сына Клэптон посвятил одну из своих самых известных песен «Tears in Heaven».

***НА СНИМКЕ: Эрик Клэптон и Мелия Макэнери.***

**Lenta.ru.**

# ГАДАНИЕ НА СОН

**Гадания на сон совершаются девушками по указанию старушек и, для большей действительности, людьми посторонними.**

Собирают из прутиков мостик, кладут под подушку. Девушка, ложась спать, говорит: "Кто мой суженый, кто мой ряженый, тот переведет меня через мост". Суженый является во сне и переводит за руку через мост.

Кладут под подушку гребенку, говоря: "Суженый, ряженый! Причеши мне голову". Суженый является во сне и чешет голову.

Берут наперсток соли, наперсток воды, смешивают и едят. Ложась спать, девушка говорит: "Кто мой суженый, кто мой ряженый, тот пить мне подаст". Суженый является во сне и подает пить.

Кладут под подушку четырех королей и говорят: "Кто мой суженый, кто мой ряженый, тот приснись мне во сне". Суженый снится во сне в виде какого-нибудь короля.

*Криминал*

## УБИТА ИЗВЕСТНАЯ ФИГУРИСТКА

**Тело известной фигуристки Киры Ивановой обнаружили в квартире погибшей ее соседи, сообщили в пятницу, 21 декабря, в пресс-службе ГУВД Москвы.**

Следствие установило, что смерть Ивановой наступила несколько суток назад в результате множественных ножевых ранений. Это обстоятельство указывает на то, что фигуристка была убита, отметили в ОВД «Отрадное», передает РИА «Новости». По факту гибели Ивановой возбуждено уголовное дело, проводится расследование.

Фигуристка Кира Иванова была победительницей многих престижных соревнований по фигурному катанию, а в 1984 году на Олимпиаде в Сараево ей удалось завоевать третье место. В последнее время она работала тренером в спортивном клубе «Динамо».

**Lenta.ru.**

## Просто анекдот

Хорошо вооруженные кулаками демонстранты напали на мирно сидящих в танках солдат. Есть пострадавшие. Солдаты получили тяжелые моральные травмы. Демонстранты отделались легкими смертями.

☺ ☺ ☹

Прапорщик отчитывает своего подчиненного:

- Я трижды вас вызывал, но вы не явились. Что происходит?

- Прошу прощения, товарищ прапорщик, я не слышал звонка.

- Вы должны были подойти и доложить, что не слышали.

☺ ☺ ☹

Встречаются два приятеля.

- Ты слышал, что Веркин муж приехал из командировки вместо субботы в четверг? И застал ее с любовником... убил его! А могло быть и хуже!

- Дааааа, если бы он вернулся во вторник - убил бы меня...





## КУРСЫ ВАЛЮТ

| На 9.01.02 | Нацбанк | Банки Минска | «Черный рынок» |
|---|---|---|---|
| Доллар США | 1598 | 1650 – 1669 | 1650 – 1670 |
| Евро | 1421 | 1458 – 1492 | – |
| Рубль России | 52,74 | 53 – 53,8 | – |

**Источник: www. tut.by**

Салідарнасць
Рэгістрацыйны № 418 ад 19.06.2001 года
Газета заснавана ў 1991г. Іванам Юргевічам
Заснавальнік — Беларускі Незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў
Наш падпісны індэкс - 64072

Рэдакцыйная калегія:
Бабаед В.С., Юргевіч І.В., Галубіна Н.Я., Грынцэвіч С.М., Абрамычаў Д.Я.



Галоўны рэдактар Віталь МУРЫЛЁЎ
Адрас рэдакцыі: 223710,г.Салігорск,вул.Леніна, 42, БНП. Тэл.: (01710) 2-06-22, тэл./факс: (01710) 2-00-59
E-mail: sol_sn@inbox.ru
Падпісана ў друк 10.01.2002 года ў 8.00
Газета аддрукавана ў друкарні г.Слуцка, 223610 г.Слуцк, вул. Багдановіча, 7 Заказ 150
Тыраж 7.000